# НАВІНЫ



БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ „АДРАДЖЭНЬНЕ“

15'1989 17 сьнежня.


**360 тысяч чалавечых жыцьцяў. Такі жахлівы прагноз наступстваў красавіка 1986-га прагучаў на Асамблеі народаў «Чарнобыльскі шлях», якая была арганізаваная БНФ у Менску 25 і 26 лістапада.**

**360 тысяч... Здаецца, ужо толькі адной гэтай лічбы дастаткова, каб усьвядоміць, што выбух на 4-ым энергаблоке Чарнобыльскай АЭС паставіў кропку ў гісторыі «разьвітога сацыялізму», а практыка «ликвидации последствий» выявіла ўсю антыгуманнасьць і бездапаможнасьць адміністрацыйнай сістэмы, паказала яе маральнае і эканамічнае банкруцтва.**

**У Асамблеі бралі ўдзел народныя дэпутаты СССР А. Адамовіч, В. Быкаў, В. Карніенка, С. Шушкевіч, віцэ-прэзідэнт АН БССР І. Ліштван, акадэмік Я. Канапля... Прысутнічалі дэлегацыі народных франтоў Літвы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, нефармальных суполак РСФСР.**

**На трыбуну выходзілі: ліквідатар вынікаў аварыі, якому даводзіцца купляць дэфіцытныя лекі у сьпекулянтаў — бо ў савецкай аптэцы простаму чалавеку паказваць дулю; маладая маці якой даводзіцца карміць свайго дзіцёнка забруджанымі прадуктамі — бо наш «аграпрамысловы сектар» ня можа забясьпечыць іншых; навуковец, якому партакратыя тры гады заціскала рот — бо паміж жыцьцямі сваіх суайчыньнікаў і уласнымі цэплымі крэсламі нашыя кіраўнікі заўсёды выбіралі апошняе...**

**Не, гэта не былі нікчэмныя скаргі пакінутых на пакуты людзей — з трыбуны Асамблеі гучаў голас народнае бяды, голас абуджэньня. Завяршылася Асамблея грамадзкім трыбуналам: віноўнікам трагедыі, аўтарам замоўчваньня яе наступстваў вынесены жорсткі, але справядлівы маральны прысуд. Толькі калі ж, нарэшце, адбудзецца суд юрыдычны? Ці ў гэтай краіне дзяржаўныя злачынствы даруюцца высокім дзяржаўным асобам?..**

**Чытайце 2—3 стар.**

Адкрыцьцё Асамблеі. Гучыць жалобны матыў:

Пакутай спадкаемнаю запальваю сьвячу,
Малітву патаемную ў прыцемках шапчу...

Фота Яўгена Коктыша.

# Асамблея народаў «Чарнобыльскі шлях»

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

Катастрофа на атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі 26 красавіка 1986 года падзяліла гістарычны час усходнееўрапейскіх народаў. Выбух нябачанаи сілы, што пакрыў радыяактыўным пылам велізарныя тэрыторыі Беларусі, паўночна-ўсходняй Украіны, заходніх абласьцей РСФСР, які скалануў усю планету — гэты выбух паставіў кропку ў гісторыі «разьвітога сацыялізму». Найбольш пацярпелая тэрыторыя — гэта зямля старажытных культураў трох народаў, на якой жывуць мільёны людзей. Стан іхняга здароўя, якасьць жыцьця бесьперапынна пагаршаюцца. Расьце сьпіс ахвяраў — тых, хто за бязьдзейнасьць уладаў, замоўчваньне праўды партыйным апаратам, абыякавасьць адказных медыцынскіх работнікаў заплаціў сваім жыцьцём ці здароўем.

Аднак ні голас грамадзкасьці, ні трывожныя навуковыя зьвесткі, ні роспачныя лісты з заражаных раёнаў ня могуць дайсьці да сьвядомасьці і сэрца тых, хто кіруе загадна-адміністрацыйнай сістэмай. Да гэтай пары не адселеныя вёскі, дзе ўзровень забруджаньня значна вышэйшы, чым дапускаецца нават бесчалавечнай 35-бэравай канцэпцыяй. Не прымаюцца меры дзеля аздараўленьня дзяцей і цяжарных жанчын. Працягваецца злачынная практыка вытворчасьці збожжа, малака і мяса на забруджаных тэрыторыях. Уведзены г. зв. часова дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыянуклідаў у прадуктах харчаваньня. Сотні мільёнаў рублёў і дэфіцытныя будматэрыялы надалей марнуюцца ў заражанай зоне. Прычына ўсяго гэтага — у бяздушнасьці тых, хто пры ўладзе, у іхнім карысьлівым і баязьлівым жаданьні пазьбегнуць адказнасьці за бязьдзейнасьць, дэзінфармацыю, некампетэнтнасьць і памылкі. Канцэпцыя, распрацаваная Міністэрствам аховы здароўя СССР — «35 бэр за 70 гадоў жыцьця» — уяўляе сабою навукова не абгрунтаваны перанос нормаў, прынятых для дарослага і здаровага чалавека, які сьвядома, у сувязі са сьпецыфікай сваёй прафесійнай дзейнасьці, рызыкуе здароўем, на ўсю папуляцыю разам з хворымі, старымі і дзецьмі. На практыцы гэтая канцэпцыя вядзе да росту захворваньняў і сьмяротнасьці насельніцтва, да сацыяльна-псіхалагічнага напружаньня, а таксама да зьніжэньня працаздольнасьці. У заражаныя раёны завозіцца адносна чыстая, а вывозіцца радыяцыйна забруджаная харчовая прадукцыя. Велізарныя сумы ідуць на даплату і сацыяльна-бытавое ўпарадкаваньне, што не ратуе становішча. Пацярпелыя раёны ператвараюцца ў велізарны радыяцыйны лепразорый, у якім дзеля выкананьня дзяржпланаўскіх дырэктываў ахвяруюць здароўем людзей, бессэнсоўна марнуюцца народныя сродкі.

Канцэпцыя ж беларускіх вучоных зыходзіць з патрабаваньня адсяленьня людзей з тэрыторыяў, радыяцыйная забруджанасьць якіх накладае абмежаваньні на нармальную жыцьцядзейнасьць чалавека і робіць немагчымаю вытворчасьць чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэтая кацэпцыя ўлічвае многія фактары, якімі пагарджае 35-бэравая канцэпцыя.

Супрацьстаяньне гэтых дзьвюх канцэпцыяў носіць не навуковы, а відавочна палітычны і маральны характар. 35-бэравая канцэпцыя выкарыстоўваецца дзеля апраўданьня крывадушша і злачыннага бязьдзеяньня як саюзных, гэтак і рэспубліканскіх уладаў, дзеля захаваньня ў гаспадарчым абарачэньні земляў, страта якіх куды больш, чым лёс людзей, турбуе гаспадароў на гадзіну з цэнтральнага бюракратычнага апарату.

Створаная іх высілкамі атмасфера глухой сакрэтнасьці вакол наступстваў катастрофы стала крыху разьвейвацца толькі ў апошні год. Але і сёньня шмат што раўніва ахоўваецца ведамаснымі інструкцыямі ды абмежаваньнямі. Злачынным зьяўляецца сакрэтны загад Міністэрства аховы здароўя СССР, які забараняе медыкам адзначаць у лячэбных картках факт апрамяненьня людзей, што прымалі ўдзел у пасьляаварыйных працах, калі сумарнае апрамяненьне, атрыманае імі, не перавышае пэўнага ўзроўню. Лёс гэтых людзей трагічны: сотні зь іх ужо памерлі, а шмат іншых цяжка захварэлі.

Вынікі практычнага бязьдзеяньня органаў улады ўзмацняюцца таксама юрыдычнай нераспрацаванасьцю пытаньня аб правах чалавека, што бязьвінна і супраць сваёй волі апынуўся на радыяцыйна заражанай тэрыторыі. Ніхто ня можа даць гарантыі бясьпекі чалавеку, які жыве на тэрыторыі зь любым узроўнем забруджаньня. Таму ўсе людзі, што пажадаюць пакінуць забруджаную тэрыторыю, павінны мець права карыстацца дапамогай дзяржавы і грамадзтва.

Уважліва разгледзеўшы ўсе разнастайныя асьпекты пераадоленьня вынікаў аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі — навуковыя, медыцынскія, сацыяльна-палітычныя, культурныя, юрыдычныя — Асамблея народаў «Чарнобыльскі шлях»:

1. Заяўляе аб немагчымасьці механічнага пераносу нормаў апрамененасьці, абгрунтаваных для прафесіяналаў, што рызыкуюць дабраахвотна, на ўсё насельніцтва, дзе ёсьць хворыя, дзеці, цяжарныя жанчыны, якія вымушаны да таго ж ужываць радыяцыйна забруджаную ежу і пераносіць іншыя віды небясьпечнага ўзьдзеяньня з боку навакольнага асяродзьдзя; лічыць сьвядомае ігнараваньне гэтых фактараў у навуковых канцэпцыях і дзяржаўных рашэньнях дзеяньнямі, якія маюць прыкметы генацыду, што зьяўляецца злачынствам супраць чалавечнасьці бяз тэрміну даўнасьці.

2. Прызнае гуманнай і навукова абгрунтаванай канцэпцыю пераадоленьня вынікаў аварыі, распрацаваную беларускімі вучонымі, якія зыходзяць зь неабходнасьці адсяляць людзей адусюль, дзе немагчымая вытворчасьць радыяцыйна чыстай сельскагаспадарчай прадукцыі і жыцьцё без абмежаваньняў; лічыць неабходным прадугледзець пры адсяленьні захаваньне сацыяльна-этнічных структураў адселеных рэгіёнаў.

3. Патрабуе цалкам скасаваць усе формы сакрэтнасьці і абмежаваньня інфармацыі, прыцягнуць да судовай адказнасьці службовых асобаў, вінаватых ва ўтойваньні альбо выкрыўленьні інфармацыі, зьвязанай з Чарнобыльскай катастрофай.

4. Заяўляе пра неабходнасьць распрацоўкі юрыдычных нормаў, што гарантуюць правы людзям, якія не па сваёй волі апынуліся на радыяцыйна заражанай тэрыторыі. Такія нормы прадугледжвалі б права на дапамогу з боку дзяржавы ў лячэньні хваробаў, выкліканых радыяцыяй, а таксама на кампенсацыю за страту асабістай маёмасьці ды сацыяльную адаптацыю на новым месцы жыхарства. Гэтыя нормы павінны адпавядаць міжнародна прызнаным дакументам аб правах чалавека. Вінаватыя ў парушэньні нормаў мусяць несьці адказнасьць адпаведна міжнароднаму праву.

5. Патрабуе ўраўнаць у правах людзей, што прымалі ўдзел у ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС і страцілі здароўе ў выніку апрамяненьня, зь інвалідамі вайны, а таксама распаўсюдзіць вызначаныя законам ільготы на іх сем'і ў выпадку заўчаснай сьмерці кармільца.

6. Дамагаецца неадкладнага спыненьня эксплуатацыі Чарнобыльскай АЭС і наданьня зоне адчужэньня статусу экалогарадыяцыйнага заказьніка.

7. Лічыць неабходным стварэньне ў рэспубліках нацыянальных камітэтаў па радыяцыйнай абароне насельніцтва, у якія ўвайшлі б сьпецыялісты і прадстаўнікі народных і экалагічных рухаў.

8. Патрабуе надаць прызыўнікам зь Беларускай і Украінскай ССР і забруджаных абласьцей РСФСР у якасьці альтэрнатывы вайсковай службе права працаваць на будаўніцтве жыльля ды іншых аб'ектаў на «чыстых» тэрыторыях для перасяленцаў з радыяцыйна забруджаных раёнаў.

9. Лічыць, што адзінай гарантыяй эфектыўнасьці праграмаў выратаваньня людзей можа быць толькі суверэнітэт рэспублік, у прыватнасьці, перадача ім асноўных вытворчых фондаў, што знаходзяцца на іхніх тэрыторыях. Разам з тым, саюзныя органы абавязаны несьці адказнасьць за тое, што здарылася, і цалкам кампенсаваць рэспублікам ды іхнім грамадзянам страты, зьвязаныя з Чарнобыльскай катастрофай.

10. Лічыць неабходным праводзіць паседжаньні Асамблеі народаў «Чарнобыльскі шлях» у пацярпелых рэспубліках штогод.

11. Прымае Зварот да народаў сьвету і да II Зьезду народных дэпутатаў СССР.

12. Патрабуе неадкладнага стварэньня рэспубліканскіх камітэтаў нацыянальнага выратаваньня, якія павінны аб'яднаць намаганьні дзяржаўных і ўсіх грамадзкіх арганізацыяў, прадстаўнікоў духавенства, вернікаў і атэістаў.

Выратаваньне народу — у ягоных руках.

## ЗВАРОТ ДА II ЗЬЕЗДУ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ СССР

На землях, засыпаных радыяцыйным пылам ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС па-ранейшаму жывуць людзі. Здаровых сярод іх застаецца усё менш. Нараджаюцца дзеці з генетычнымі парушэньнямі. Гаспадарчы план па-ранейшаму дыктуе вырошчваць збожжа і гадаваць жывёлу, вытвараць

## ІНТЭРВІЮ НУМАРА

# ЮРЫ ХАДЫКА: ІДЭАЛ — БЕСПАРТЫЙНАЕ ГРАМАДЗТВА

**Гэтая новая рубрыка «Навінаў» задуманая як цыкл палітычных і чалавечых партрэтаў людзей, дзейнасьць якіх вызначае сёньняшняе аблічча БНФ «Адраджэньне». Але наша мэта — ня толькі даць адказ на пытаньне хто ёсьць хто? Нам хацелася б сутыкнуць розныя меркаваньні і ідэі, бо БНФ — ня ёсьць закамянелая маналітная структура. Звышзадача рубрыкі — убачыць, якім будзе рух заўтра.**

**Грамадзкая думка атаясамлівае імя прафесара, доктара фізіка-матэматычных наук Юрыя Хадыкі з другім дыханьнем Фронту. Менавіта зь яго дзейнасьцю многія зьвязваюць найбольш «бяскроўны» шлях да вольнай Беларусі. Гэты чалавек уражвае неардынарнасьцю мысьленьня, вялікай адказнасьцю за лёс нацыі. У сваіх поглядах ён зыходзіць з прыярытэту агульначалавечых каштоўнасьцяў. Нават апаненты прызнаюць яго за сапраўднага палітычнага лідэра.**

**«Навіны»: Шаноўны Юры Віктаравіч, Вы працавалі ў Аргкамітэце БНФ не ад пачатку. Як прыхільнік руху, Вы сталі вядомы пад час выбарчай кампаніі ў народныя дэпутаты СССР, і ўжо потым на Устаноўчым зьездзе Вас абралі намесьнікам Старшыні Сойму. За параўнальна кароткі тэрмін Вы здолелі здабыць высокі аўтарытэт.**

Ю. Х.: Але ж я пачаў прымаць удзел у руху амаль праз тыдзень пасьля таго, як утварыўся Аргкамітэт. У нечым гэта было выпадкова: мяне вельмі абурылі публікацыі, якія пачалі зьяўляцца на старонках рэспубліканскіх газэт. Гэта «Пена на хвалі перабудовы» і іншыя. Яны былі настолькі бессэнсоўныя, утрымлівалі грубыя выпады супраць моладзі. Мяне гэта вельмі абурыла. Я выступіў на партыйнай канферэнцыі інстытута супраць, прапанаваў рэзалюцыю якая асуджала гэтыя публікацыі, і яна была прынятая. Пасля, 30 кастрычніка, я пайшоў на «Дзяды» і з гэтага часу ўключыўся ў грамадзкую дзейнасьць. 11 лістапада ў Інстытуце фізікі АН БССР, дзе я працую, была ўтвораная група падтрымкі БНФ. Удзел у выбарчай кампаніі быў ужо лагічным працягам.

**«Навіны»: І вось такая палітычная актыўнасьць не перашкаджае навуковай працы? Вы ўсё ж прафесар, загадчык лабараторыі, маеце шмат навуковых абавязкаў?**

Ю. Х.: Так, зразумела, перашкаджае. Сьцьвярджаць супрацьлеглае было б проста несумленна, бо такі аб'ём грамадзкай работы ня можа не адбівацца на маіх абавязках Але я павінен падкрэсьліць, што мае супрацоўнікі падтрымліваюць маю дзейнасьць і пэўную долю нагрузкі бяруць на сябе. Адмовіцца ад палітычнай дзейнасьці я змагу толькі тады, калі страчу грамадзкую падтрымку.

**«Навіны»: Рэспубліканскі партыйны друк не аднойчы дазваляў сабе непрыстойныя выпады ў Ваш адрас. Вас прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасьці. Як да гэтага ставіцца Ваша сям'я?**

Ю. Х.: Я чалавек шчасьлівы, таму што мая сям'я: і мая жонка, і мае сыны мяне падтрымліваюць. Адзін сын у мяне ўжо зусім дарослы, ён працуе ў Музеі старажытна-беларускага мастацтва, праводзіць экскурсіі на беларускай мове, другі вучыцца ў 8-м класе, чалавек ужо сьвядомы, таксама прыхільнік БНФ.

**«Навіны»: Палітыка, навука, сям'я. А што яшчэ?**

Ю. Х.: Ужо больш за дваццаць гадоў я цікаўлюся гісторыяй старажытнага беларускага мастацтва. Гэтае маё хобі дало мне веды, і я нават апублікаваў некалькі сьпецыяльных працаў. Усё нашае сярэднявечнае мастацтва хрысьціянскае, і яго нельга зразумець, калі ня ведаць, што такое хрысьціянскі сьветапогляд. Таму я зь цягам часу пачаў разьбірацца ў пытаннях тэалогіі, праваслаўя, каталіцтва, пратэстантызму. Ну і зразумела, гісторыя беларускага мастацтва прымушае ведаць усё пра вунію — пра тое сапраўднае беларускае веравызнаньне, якога мы пазбаўлены паўтара стагодзьдзя.

**«Навіны»: А Вы веручы чалавек?**

Ю. Х.: Мая бабка казала: «Вера — таямніца душы». Я падзяляю хрысьціянскае веравучэньне, ягоныя дагматы, ягоныя прынцыпы, аднак у звычайным разуменьні гэтага слова назваць сябе веручым вельмі цяжка, бо веручы чалавек абавязаны прымаць удзел у кульце, хадзіць на набажэнствы, на літургіі, вытрымліваць усе сьвяты, усе прадугледжаныя рытуалы.

**«Навіны»: Як Вы ставіцеся да цяперашняга складу ЦК КПБ?**

Ю. Х.: У апошнім сваім выступе першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў з гонарам заявіў, што ў нас не было рашыдавых, медуновых і іншых асобаў, якія скампраментавалі сябе супрацьпраўнымі дзеяньнямі, не было мафіі на дзяржаўным узроўні. І сапраўды, на Беларусі гэтага не было. Але нельга заплюшчваць вочы на тое, что ў нас было штосьці накшталт прыступкі да мафіі: кланы — партызанская група, потым трактаразаводзкая, зараз брэсцкая — гэта ўсе ведаюць. І таму казаць, што ў рэспубліканскай партарганізацыі пануюць дэмакратычныя прынцыпы, нельга. Гэта і вызначае мае стаўленьне. Партыйнае кіраўніцтва сфармаванае не па аб'ектыўных прынцыпах: сяброўства і асабістыя сімпатыі маюць там вялікае значэньне. У нашым становішчы, калі ад рэспубліканскага парткіраўніцтва залежаць шмат якія пытаньні, — такія прынцыпы зьяўляюцца заганнымі, яны вядуць да стварэньня непрафесійнага кіраўніцтва. Гэта галоўны недахоп.



**Прафесар Ю. Хадыка перад судом Маскоўскага раёна. За арганізацыю акцыі «Чарнобыльскі шлях» ён быў асуджаны на 2 месяцы прымусовых работ з ўтрыманнем 20 працэнтаў заробку.**

**Аматарскі здымак.**

Перабудова прывяла да расслаеньня партыі. Відавочна, што шмат асобаў з партапарату наогул забыліся думаць пра інтарэсы народу і краіны, яны думаюць перш за ўсё пра свае асабістыя інтарэсы. Гэтаму паспрыяла і тая структура, якая існуе ў КПСС. Многія ведаюць пра гэта, але маўчаць.

**«Навіны»: Партапарат імкнецца захаваць славуты шосты артыкул Канстытуцыі. Ці не супярэчыць гэта кэрэнным прынцыпам дэклараваных перабудовай пераменаў?**

Ю. Х.: Перакананы, што гэты артыкул павінен быць скасаваны. У свой час гэта быў проста апафеоз эпохі застою: ляніўцы-каты, якія нават і мышэй ужо ня хочуць лавіць, замацавалі сваё гультайства канстытуцыйным шляхам. Любая партыя, у тым ліку і камуністычная, права на кіраўнічую ролю павінна здабываць практычнай дзейнасьцю. Калі яна ня здольная зрабіць гэта, трэба ад улады адмовіцца. Як адбылося ўжо ў Польшчы, як адбываецца ў Германіі. Гэта простая і зусім відавочная логіка. У нас жа ўсё накіроўваецца у адваротны бок. У гістарычным плане мы ідзём не наперад, а далёка назад. Сістэма наменклатуры, прадвызначанасць кадравай палітыкі вядуць нас да каставага грамадзтва, якое было характэрнае для дафеадальных структураў. Гэта нешта накшталт рабаўласьніцкага грамадзтва, бо чалавек, які трапляе ў наменклатуру, атрымлівае не прадугледжаныя неякімі законамі прывілеі. Такі чалавек можа рабіць усё, што захоча. Дык хіба гэта ня каста? Наменклатурная практыка павінна быць скасаваная.

**«Навіны»: Калі партыя страціла аўтарытэт, яе дзейнасьць не адпавядае інтарэсам народа, яна павінна пайсьці ў апазіцыю. Уявім, што так адбылося, і камуністычныя кіраўнікі раптам вырашылі падзяліцца ўладай. Як будзе тут, на Беларусі? Ці знойдуцца сілы, здатныя выкарыстаць перададзеную ім уладу для больш прагрэсіўнага разьвіцьця?**

Ю. Х.: Палітычны прагноз — справа вельмі складаная і адказная. Таму я магу толькі сказаць, што тут тэарэтычна можна прадугледзець некалькі варыянтаў. Па-першае, што, на мой погляд, найбольш верагодна — стварэньне ў межах самой КПСС некалькіх фракцый, якія былі б здольныя выпрацаваць альтэрнатыўныя праграмы разьвіцьця грамадзтва. Па-другое, мы можам разглядаць БНФ «Адраджэньне» ды й наогул дэмакратычныя рухі ў іншых рэспубліках, як такое асяродзьдзе, у якім могуць скласьціся іншыя палітычныя партыі.

Я асабіста стаю на кансерватыўных пазіцыях ў пытаньні стварэньня шматпартыйных структураў. Як падказвае мне вопыт вывучэння гісторыі, ідэалам зьяўляецца грамадзтва гарманічна арганізаванае: там, дзе няма супярэчнасьцяў паміж яго часткай (партыяй) і агульным цэлым, дзе няма ніякай патрэбы ў дыктатуры адной часткі над другой, ці ў кіраўнічай ролі. На маю думку, мэта, якая магла б натхняць — гэта стварэньне беспартыйнага грамадзтва. Гэта найбольш адпавядае ідэі Платона, што кіраваць грамадзтвам павінны філосафы, сучасным ідэям тэхнакратычнага грамадзтва, паводле якіх кіраваць павінны сьпецыялісты. Аднак Платонам тут была зробленая вельмі цікавая заўвага: філосафы ад такой працы не павінны мець ніякіх асабістых выгодаў.

**«Навіны»: Вобраз БНФ, якім Вы яго бачыце?**

Ю. Х.: Ідэальным я бачу Фронт, які мае шырокую падтрымку ў грамадзтве, які карыстаецца павагаю як у горадзе, так і ў вёсцы. Ідэальнай я бачу такую структуру, дзе думка, кім бы яна не выказвалася, уважліва абмяркоўвалася і магла быць рэалізаваная, каб не было амбіцый, што часам яшчэ здараецца нават і з майго боку. Аднак, самае галоўнае, каб БНФ выказваў ідэі, памкненьні беларускага народу.

**«Навіны»: Не аднойчы з тактычных меркаваньняў прапаноўвалася зьмяніць прыярытэты руху.**

Ю. Х.: На маю думку, прынятая Устаноўчым зьездам Праграма — я не ўдзельнічаў ў яе стварэньні, таму мая высокая ацэнка ніяк ня носіць асабістага адценьня — добрая Праграма. У ёй і так на 80 працэнтаў стаяць агульнаграмадзкія і дэмакратычныя мэты. Тыя разьдзелы, якія прысьвечаны нацыянальнай культуры, таксама адпавядаюць маёй ацэнцы іх жыцьцёвай неабходнасьці. Складальнікі Праграмы ішлі ад агульнакультурнага становішча ў Рэспубліцы. Нацыянальны нігілізм разьядае наш народ як іржа. Гістарычны вопыт сьведчыць, што калі мы ня будзем надаваць належнай увагі пытаньням нацыянальнай культуры, гісторыі, дык мы здрадзім сабе, бо шмат якія рысы нашага грамадзтва, нашага характару прадвызначаныя гэтай гісторыяй. Я таксама, гэтак як і Яфрэм Сакалоў, задаволены, што народная гаспадарка, нягледзячы на зусім дрэннае кіраўніцтва, яшчэ разьвіваецца, і прычым лепш, чым у сярэднім па СССР. Магу засьведчыць, што і беларускіх вучоных паважаюць не за тое, што яны маюць больш за ўсіх узнагародаў, а за тое, што яны ўмеюць працаваць. Гэта самае галоўнае. Прабачце за тэматычнае адступленьне: гадоў дзесяць таму маскоўскія карэспандэнты заўважылі, што на Беларусі людзі пераходзяць вуліцу на зялёнае сьвятло. Вельмі зьдзіўляліся. А потым пайшлі пахвалы беларускай міліцыі, што яна добра арганізавала сістэму пастоў і штрафаў. Але, калі б гэта было так, дык лепш за ўсё было б наладзіць аналагічную сістэму ў Маскве. Справа тут ня ў штрафах, а ў павазе да парадку і наогул цывілізаванага жыцьця, якой навучылі нас бацькі і дзяды. Я не разумею, навошта адмаўляцца ад нашай культуры нібыта дзеля нейкіх агульначалавечых памкненьняў. Няма нічога агульначалавечага, што не набывае нацыянальную форму. Таму БНФ ідзе да вырашэньня агульнадэмакратычных праблемаў праз нацыянальную форму.

**«Навіны»: Як Вы ставіцеся да выхаду Беларусі са складу СССР?**

Ю. Х.: Лічу, што ні наш народ, ні наша гаспадарка зараз да такой пастаноўкі праблемы не падрыхтаваныя. Я бачу зараз неабходнасьць гаспадарчай самастойнасьці, бо СССР знаходзіцца ў вельмі цяжкім становішчы, і, як звычайна ў час распаду, праявы крызісу паўстаюць не адначасна і не паўсюдна. Яны ахопліваюць асобныя рэгіёны. І ў такіх выпадках трэба дамагацца гаспадарчай незалежнасьці, каб захоўваць нармальную гаспадарку нават знаходзячыся ў межах СССР. Тады Рэспубліка ня будзе ўцягненая ў стан агульнага крызісу. Я ня стаў бы зараз вылучаць як палітычную мэту поўную дзяржаўную незалежнасьць. Але гаспадарчую, культурную, палітычную аўтаномію мы павінны захоўваць.

**«Навіны»: Захад не заўважае Беларусі. Роўныя па значнасьці падзеі ў нас і, прыкладам, на Украіне, у Малдавіі, ня кажучы ўжо пра Балтыю і Маскву, набываюць розны рэзананс.**

Ю. Х.: Гэта залежыць ад шэрагу прычынаў. Магчыма, нашыя суседзі больш імкнуцца да папулярызацыі сваіх акцый. Накладае адбітак і тое што народныя рухі ў шмат якіх рэспубліках ужо прызнаныя. На мнагіх паказчыках Беларусь зьяўляецца люстэркам агульнасаюзнага становішча. Балтыйскія дасягненьні ў галіне дэмакратыі не тыповыя, а нашая Вандэя як раз найбольш характэрная для агульнага стану ў СССР. І гэтым, магчыма, тлумачыцца такая сьціплая цікаўнасьць. Беларусь ня лідэр, а ідзе пакуль што ў ар'ергардзе.

**«Навіны»: Беларусь не ўспрымаецца сьветам як самастойная палітычнай адзінка.**

Ю. Х.: Пад гэтым слушным назіраньнем ёсьць сур'ёзныя гістарычныя прычыны. Беларусь страціла дзяржаўную незалежнасьць, увасобленую ў Вялікім Княстве Літоўскім, канчаткова ў канцы 18 ст. і стала Паўночна-Заходнім краем Расейскай імперыі. За імкненьне да дзяржаўнай незалежнасьці мы заплацілі вельмі крывавы падатак. З усіх далучаных да Расіі тэрыторый толькі Беларусь паўставала рэгулярна праз адно пакаленьне. Гэтым ня можа ганарыцца ні Балтыя, ні Украіна, ні Закаўказьзе. Трэба дадаць да гэтага Першую і Другую сусьветныя войны, сталінскі генацыд. Нацыя страціла амаль усіх, хто нарадзіўся ў 20-я г. І тое, што нас не заўважаюць, — ёсьць рэальныя ацэнка стану нацыянальнай самасьвядомасьці, дасягненьняў гаспадаркі, навукі і культуры на сусьветным фоне.

**«Навіны»: Як Вы ставіцеся да досьведу народных рухаў Балтыйскіх краінаў?**

Ю. Х.: Мы б з задавальненьнем выкарысталі іх вопыт, калі б у нас была аналагічная сітуацыя. Тыя варункі, у якіх працуе БНФ, мала нагадваюць балтыйскія, і таму мы пакуль мала што можам скарыстаць. Аднак галоўныя накірункі дзейнасьці, удалыя спробы прыцягненьня інтэлектуальных сілаў дзеля вырашэньня актуальных праблемаў разьвіцьця вельмі натхняюць. Мы імкнемся да таго, каб лепшыя галовы на Беларусі працавалі на карысьць свайго народу. І, я мяркую, калі б Фронт быў зарэгістраваны, ягоныя шэрагі б значна папоўніліся.

**«Навіны»: Але ж, калі вядомыя навукоўцы адкрыта падтрымаюць БНФ, гэта паспрыяе і ягонай легалізацыі.**

Ю. Х.: Так, але я лічу, што пытаньне легалізацыі БНФ залежыць проста ад беларускага народу. Калі выбарчая кампанія скончыцца перамогай дэмакратычных сілаў, сёньняшняе кансерватыўнае кіраўніцтва пакіне свае пасады — БНФ «Адраджэньне» будзе зарэгістраваны.

**«Навіны»: Дзякуй.**

**Запісала І. Л.**

Віктар ІВАШКЕВІЧ,
старшыня Выбарчай камісіі БНФ

# Унікальная магчымасьць для аб'яднаньня

Гісторыя паказвае, што рэвалюцыя, як экстрэмальны стан грамадзтва, ня можа працягла доўжыцца ў часе. Яна абавязкова павінна скончыцца стабілізацыяй. Стабілізацыя ж наступае ці ў выніку перамогі рэвалюцыі, пасьля чаго грамадзтва, скінуўшы путы старога рэжыму, пачынае інтэнсіўна разьвіваць вытворчасьць, культуру, навуку, падвышаючы агульны жыцьцёвы ўзровень народа, ці ў выніку контррэвалюцыйнага перавароту, які суправаджаецца тэрорам, устанаўленьнем крывавай дыктатуры.

Выйсьця з эканамічнага крызісу сёньня можа быць толькі два. Першае — радыкальнае—зьняць ідэалагічныя і адміністрацыйныя кайданы з вытворцаў, перадаўшы ў іх уласнасьць сродкі вытворчасьці; **не выхоўваць** у людзей пачуцьцё гаспадара, а **зрабіць** іх гаспадарамі. Другое — часовае — паставіць над кожным узброенага наглядчыка і за ўсялякую правіннасьць — расстрэл.

Вынікі выбараў у Вярхоўны і мясцовыя саветы лагічна паставяць Беларусь, да і ўсю краіну, на адзін з гэтых шляхоў.

Удзельнікі ўстаноўчага сходу «Мартыралогу Беларусі», на якім 19 кастрычніка 1988 года быў утвораны Аргкамітэт БНФ, спадзяваліся, што ўздымецца хваля народнага руху і ў лічаныя месяцы зьмяце дыктат партапарату на Беларусі, як тое адбылося у Балтыйскіх краінах. Але ж стварэньне Аргкамітэту БНФ паклала пачатак зацяжной халоднай, а часам і гарачай (напрыклад, падзеі 30 кастрычніка ў Менску) вайне. За гэты год былі прыцягнутыя да судовай адказнасьці дзесяткі актывістаў БНФ, тысячы рублёў канфіскаваныя ў выглядзе штрафаў, арыштаваных друкаваных выданьняў і іншай маёмасьці сяброў Фронту. Рэспубліканскі партыйны друк распачаў нечуваную кампанію шальмаваньня руху. Але Беларускі Народны Фронт выстаяў, правёў Устаноўчы зьезд і прымусіў признаць сябе дэ-факто, як рэальную палітычную сілу. Дзякуючы актыўнасьці БНФ Чарнобыльскае пытаньне было пастаўлена на ўсіх узроўнях у шэраг першачарговых. Менавіта дзейнасьць БНФ стварыла ўмовы для ўзьнікненьня Беларускага Экалагічнага Саюзу, Таварыства Беларускай Мовы, Беларускага Сялянскага Саюзу, камітэту «Чарнобыль і дзеці», Беларускага Венскага камітэту па правах чалавека, аргкамітэт Рабочага Саюзу Беларусі. У выніку ўдзелу БНФ у веснавой выбарчай кампаніі ўтварылася дэмакратычная фракцыя сярод народных дэпутатаў СССР ад Беларусі. Пры падтрымцы БНФ заняла незалежную пазіцыю Акадэмія навук.

У той жа час у прамовах адказных партыйных работнікаў ўсё часьцей адкрыта гучаць прапановы аб чыстцы ў партыі, аб жорсткім кантролі за сродкамі масавай інфармацыі і суровых санкцыях да непаслухмяных рэдактараў і журналістаў, заклікі фізічна рэпрэсаваць актывістаў дэмакратычнага руху.

Сьпецыфіка Беларусі яшчэ і ў тым, што ў Рэспубліцы фактычна няма выразнай ліберальнай фракцыі ў партапараце, якая магла б выступіць арбітрам паміж радыкальнай дэмакратычнай апазіцыяй і ультракансерватарамі. **Гэтая сітуацыя стварае ўнікальную магчымасць для аб'яднаньня ўсіх прагрэсіўных сілаў дзеля дасягненьня першачарговых задачаў, без чаго перабудова ў нашай Рэспубліцы будзе задушаная.**

Пільна патрэбныя: **Закон аб уласнасьці і Закон аб зямлі**, якія разьняволяць эканамічную і гаспадарчую ініцыятыву, ураўняюць усе формы ўласнасьці, зробяць гаспадарамі зямлі і заводаў тых, хто на іх працуе. Толькі пры гэтай умове можна дасягнуць дастатку, нарэшце напоўніць таварамі прылаўкі. **Скасаваньне 6-га артыкула Канстытуцыі** — манаполіі КПСС на ісьціну і ўладу. **Закон аб партыях і грамадзкіх арганізацыях**, які абвесьціць свабоду іх утварэньня і дзейнасьці. Урэшце, **Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі** (аб вяршэнстве рэспубліканскіх законаў) і **Закон аб эканамічнай самастойнасьці Рэспублікі.** Яны жыцьцёва неабходныя нам, каб не залежаць ад сваволі ды ваганьняў палітыкі «Цэнтру», каб вызваліцца ад кароткага эканамічнага павадка, на якім па-ранейшаму трымае Рэспубліку падараваны Масквой Закон аб самафінансаваньні.

Менавіта на працягу 4 месяцаў вырашыцца лёс Беларусі: ці быць ёй вольнай, эканамічна разьвітай, самастойнай еўрапейскай краінай, ці растаптанай паўкаловіяй, прыгнечанай правінцыяй аднаўленай сталінскай імперыі.

Тры галоўныя кірункі дзейнасьці паўстаюць зараз вельмі выразна:

**1. Выявіць у якасьці магчымых кандыдатаў ў дэпутаты адукаваных, актыўных, дэмакратычна настроеных людзей (а іх па Рэспубліцы ў Саветы ўсіх узроўняў трэба каля 30 тысячаў).**

**2. Арганізаваць іх вылучэньне ва ўсіх выбарчых акругах (асабліва ў Вярхоўны Савет БССР і гарсаветы буйных гарадоў, не дапусціць безальтэрнатыўных выбараў.**

**3. Давесьці да выбаршчыкаў інфармацыю: якіх кандыдатаў падтрымліваюць дэмакратычныя арганізацыі.**

Адным са сродкаў для выкананьня гэтага могуць стаць **камітэты (клубы) за дэмакратычныя выбары**. Прапануем ствараць іх, па магчымасьці, у кожным населеным пункце.

Каб арганізаваць такі камітэт, дастаткова трох ініцыятыўных людзей, якія ўтвораць арганізацыйную групу і напішуць адозву да жыхароў свайго горада, раёна ці вёскі, дзе выкладуць:

а) асноўныя праграмныя палажэньні, за якія яны выступаюць—эканамічная самастойнасьць Беларусі, перадача заводаў ва ўласнасьць працоўных калектываў, перадача зямлі ва ўласнасьць сялянам бяз выкупу, свабода ўтварэньня і дзейнасьці партый, адмена 6-га артыкула Канстытуцыі і г. д.;

б) просьбу прапаноўваць камітэту тыя кандыдатуры ў Вярхоўны і мясцовыя Саветы, чые праграмы ўтрымліваюць вышэйпададзеныя палажэньні;

в) просьбу перадаваць або дасылаць камітэту свае прапановы па праграме і дзейнасці Вярхоўнага і мясцовых Саветаў;

г) прапанову далучацца да дзейнасьці камітэта ў якасьці агітатараў;

д) адрас, па якім можна зьвяртацца ў камітэт за дэмакратычныя выбары.

**Адозву неабходна шырока распаўсюдзіць сярод жыхароў свайго населенага пункту (шляхам улётак, плакатаў і г. д.).**

На аснове прапановаў, што прыйдуць па ўказаным у звароце адрасе неабходна стварыць выбарчую платформу камітэта для Вярхоўнага і сваіх мясцовых Саветаў. Прапановы, якія датычаць праграмы дзейнасьці Вярхоўнага Савета БССР, пера-

сылаць у «Навінг БНФ» з прыпіскай **«Дэпутацкі клуб»** на пададзены ў канцы выданьня адрас (тэл. 66-58-87. Віктар Івашкевіч. Просьба тэлефанаваць з 9.00 да 11.00).

Прапанаваных кандыдатаў ў дэпутаты разьмеркаваць па выбарчых акругах і пададбраць ім каманды давераных асобаў і агітатараў.

Інфармацыю пра вылучаных камітэтам кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, з назвай акругі, таксама дасылаць на адрас «Навінаў БНФ» з прыпіскай **«У выбарчую камісію»**.

Дзеля каардынацыі перадвыбарчай дзейнасьці збору прапановаў да выбарчых праграмаў (агульнабеларускай, гарадзкой, раённых) Менскія Рады БНФ вылучылі тэлефоны і паштовыя адрасы:

**Заводзкі р-н:** 220094, Менск-94, абан. скрынка 299. 220083, Менск-83, абан. скр. 31. Тэл. 47-09-63 (21.00 — 22.00. Гусак Станіслав Рыгоравіч). 45-04-79 (Чунтонаў Георгі Вячалсававіч), 41-77-20 (21.00 — 22.00. Лабанаў Юры Уладзімеравіч).

Кастрычніцкі р-н: 220007, Менск-7, абан. скр. 195. Тэл. 78-15-51 (7.30 — 8.30. Грыб Іван Іванавіч), 79-38-55 (панядзелак, чацьвер, 20.00 — 22.00. Праляскоўская Людміла Анатольеўна).

**Ленінскі р-н:** 220050, Менск-50, абан. скр. 182, Тэл. х. 77-72-23, сл. 54-33-49 (Бурак Мечыслаў Восіпавіч).

**Маскоўскі р-н:** 220116, Менск-116, абан. скр. 124 або 223. Тэл. 71-83-73 (Антончык Сяргей), 71-70-50 (Чубанаў Сяргей).

**Партызанскі р-н:** 26-68-74 (Латушка Павел Якаўлевіч), 62-28-90 (Вольскі Артур Віталевіч), 64-47-40 (Дракахруст Юры Аляксандравіч).

**Першамайскі р-н:** 220119, Менск-119, абан. скр. 13. Тэл. 65-84-62 (21.00 — 24.00). Вераб'ёў Уладземір).

**Савецкі р-н:** 220131. Менск-131, абан. скр. 139. Тэл. 61-74-47 (Навумовіч Галіна).

**Фрунзенскі р-н:** 220015, Менск-15, абан. скр. 311. Тэл.: 52-82-25 (Банкевіч Генадзь Уладзімеравіч), 52-52-15 (Хоціна Тамара Сьцяпанаўна).

**Цэнтральны р-н:** 37-12-82 (па будзённых днях, 21.00 — 22.00).

**Менскі сельскі р-н:** 94-38-13 (Кудлач Сяргей Уладзімеравіч, ст. Радашкавічы), 98-84-71 (в. Тарасава), Залацілін Віктар Мікалаевіч (п. Юбілейны, п/а Сеніц, Камунальная, 12—41).

**Дыскусійны цэнтр Рады БНФ АН БССР:** 220092, Менск-92, абан. скр. 35.

# «ДСП»?

Ня верце таму, хто скажа, што гэтая інструцыя, распрацаваная недзе ў нетрах ЦК ЛКСМБ — вынік пакутлівых роздумаў камсамольскіх функцыянераў. Уяўляецца, што мае яна дзве выпрабаваныя практыкай першакрыніцы. Адну — рэкамендацыі амерыканскага псіхолага Дэйла Карнегі — плённа выкарыстоўвае не адно пакаленне заходніх палітыкаў і бізнесменаў. Другая, хоць і не такая папулярная, але таксама надзейная: вопыт «партвандзэйцаў» на выбарах'89.

Апошняя крыніца дазваляе чэрпаць вопыт сапраўды бясцэнны. Вось, напрыклад, парада перасоўваць непапулярных кандыдатаў у вясковыя акругі — ці ня ўзятая яна з выбарчае практыкі Я. Сакалова, Г. Таразевіча, М. Дземянцея, М. Кавалёва? Альбо сепаратная дамова з мясцовым прэтэндэнтамі: зьнялі ж у апошнія перадвыбарчыя тыдні ўласныя кандыдатуры 1-ы сакратар райкаму партыі і дырэктар аднаго саўгасу, выказаўшы гэтым пашану колішняму свайму канкурэнту — 1-му сакратару Віцебскага абкама Ул. Грыгор'еву...

Шкада толькі, што, відаць па ўсім, рыхтаваліся рэкамендацыі ў сьпешцы: некаторыя пункцікі засталіся нерасшыфраваныя. Далібог, сакратар камсамольскага камітэту дзе-небудзь у Маладэчне ці Пухавічах можа і ня ўцяміць, што такое «решающий удар» і калі яго патрэбна «нанести». Іх калегі з буйных гарадоў маюць відавочную перавагу: калі спатрэбіцца, дык старэйшыя таварышы растлумачаць, як лепей скампраментаваць кандыдата. Спосабаў — безьліч. Можна ў апошнія перадвыбарчыя дні надрукаваць хлусьлівы артыкул, як зрабіў гэта «Вячэрні Мінск» у адносінах да А. Жураўлёва, ці пусьціць наўздагон за кандыдатам сьледчую групу, як за С. Габрусевым у Магілёве. Альбо па ўнутраных прапагандысцкіх каналах пусьціць пра чалавека брудную плётку, як у выпадку з В. Манаевым...

Зрэшты, можна меркаваць, што і партыйныя кіраўнікі распрацавалі пэўныя рэкамендацыі і разашлюць іх па ўсіх райкамах. Так што і для камсамольскіх функцыянераў «нижнего звена» ня ўсё яшчэ згублена, — галоўнае — своечасова зьвярнуцца па дапамогу да старэйшых таварышаў...

Сяргей **НАВУМЧЫК**

## РЕКОМЕНДАЦИИ
### по вопросам тактики предвыборной борьбы для кандидатов в народные депутаты БССР от ЛКСМ Белоруссии

1. Если кандидат является функционером аппарата ЛКСМ любого звена, его шансы быть избранным существенно ниже, чем у рядового комсомольца. Поэтому принципиальным вопросом при подборе кандидатур является создание креатур (ставленников) Комсомола.

2. Желательные анкетные данные для кандидата: отсутствие политической истории в доперестроечный период, «новый выдвиженец», интеллектуал (для больших городов), не занимает никакой руководящей должности, беспартийный, возраст около 30-и лет.

3. Принципиально важно удачно выбрать избирательный округ. Примерный политический портрет округа можно получить из простого анализа итогов выборов народных депутатов СССР. Это легко сделать, поскольку на территории избирательного округа, по которому избирался депутат на выборах в марте 1989 г., будет расположено несколько округов, по которым пройдут выборы в Верховный и местные Советы БССР. Если по старому округу прошёл кандидат, занимавший какое-то место в системе управления, то есть вероятность, что может быть избран от округов на этой территории аналогичный кандидат и на предстоящих выборах.

4. Наименее популярных кандидатов необходимо перебрасывать в сельские избирательные округа (лучше на территории Западной Белоруссии) и по соответствующим каналам вести переговоры о том, чтобы в этих округах не выдвигались другие (свои) кандидатуры. В противном случае велика вероятность, что избиратели сельского округа предпочтут своего кандидата. В районах, пострадавших от чернобыльской аварии, «чужие» кандидаты, особенно из Минска, встретят негативную реакцию.

5. В больших городах, где существенно влияние неформальных организаций, предпочтительнее делать ставку на креатуру Комсомола, а не на комсомольского функционера.

6. Если популярность неформального кандидата в городском округе велика и ведется активная кампания в его поддержку, можно использовать для борьбы с ним простой, но эффективный метод: выдвинуть большое число своих кандидатов. Тем самым уже на начальных стадиях предвыборной борьбы этот кандидат будет «потоплен» среди большого количества своих кандидатов.

7. В ходе предвыборной кампании важное место принадлежит рейтингу, т. е. динамике индекса популярности кандидатов в печати, на телевидении. Если избиратель видит часто в газете, что этот индекс самый высокий у какого-то одного кандидата, то это прибавит шансов этому кандидату быть избранным.

8. Доверенные лица кандидата. В их числе обязательно должны быть экономист, юрист, хороший оратор, составитель речей.

9. При выступлениях на предприятиях, в трудовых коллективах принципиально важно заземлять свои предвыборные платформы, речи к ключевым проблемам, даже одной проблеме, которая больше всего волнует тот или иной коллектив. Перед тем как ехать на встречу с избирателями того или иного предприятия, обязательно прозондировать вопрос: «Какая проблема больше всего волнует этот коллектив на сегодняшний день?».

10. Кандидат должен быть «своим парнем» для избирателей-мужчин и «эталоном мужчины» для избирателей-женщин. Исходя из этих посылок и следует вести себя в ходе всей предвыборной кампании, в том числе в беседах с избирателями после собраний, на улице и т. д.

11. Во время выступлений не следует говорить о большом числе проблем, следует сконцентрировать внимание на ключевых 2-х, 3-х, максимум — 4-х.

12. Важно выбрать время и место для нанесения решающих ударов по сопернику, хорошо выяснив его наиболее уязвимое место заранее.

13. В ответах на вопросы кандидат должен быть немногословным, отвечать кратко и понятно. У избирателя всегда должно оставаться впечатление, что нечто очень важное не досказано. Пусть это самое важное для себя каждый избиратель доскажет или додумает сам.

14. В большом городе необходим постоянный неофициальный контакт с неформальными объединениями. Не исключается возможность для тактического союза с ними. Например, одна из сторон снимает своего кандидата и агитирует своих сторонников голосовать за вчерашнего соперника, видя, что свой заведомо не пройдёт и т. п.

## КРОНІКА

● **29 кастрычніка—5 лістапада, ВІЦЕБСК.** Упершыню, па ініцыятыве Віцебскай Рады БНФ і пад пільным наглядам міліцыі, былі адзначаны «Дзяды». Актывісты Віцебскае філіі «Мартыралогу Беларусі» С. Цярэньцьеў, І. Аляксандрава, Ул. Пранік, II. Сырапеня наладзілі мітынг памяці і паставілі крыж ля вёскі Паляі, на месцы масавых расстрэлаў людзей у гады сталінскага генацыду.

● **1 лістапада, МЕНСК.** На заводзе «Электронмаш» адбылася заводзкая ўстаноўчая канферэнцыя Рабочага Саюзу (РС). У яе рабоце ўдзельнічалі 174 дэлегаты. Быў прыняты Статут, абранае кіраўніцтва; старшынёй Саюзу стаў сябра Сойму БНФ Г. Мухін (кантактны тэл. 49-04-22). Канферэнцыя выказалася ў падтрымку кірунку БНФ і іншых грамадзка-палітычных аб'яднаньняў на дэмакратызацыю і карэнныя сацыяльна-эканамічныя рэформы; за супрацоўніцтва з усімі створанымі «зьнізу» саюзамі і асацыяцыямі працоўных, якія маюць дэмакратычную платформу. Дэлегаты зьвярнуліся да рабочых Менску са зваротам, у якім заклікалі ствараць падобныя Саюзы на іншых прадпрыемствах, каб пазьней аб'яднацца ў Рабочы Саюз Беларусі.

● **2 лістапада, МЕНСК.** У царкве хрысьціян-евангелістаў па вул. Собінава, 40 адбылося сьвята Бібліі, прысьвечанае 500-годзьдзю з дня нараджэньня Францішка Скарыны. Набажэнства вялося пабеларуску.

● **9—10 лістапада, БЯРЭСЬЦЕ.** У народным судзе Ленінскага раёна слухаліся «справы» аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці Р. Бакіевіча, Ул. Багана, М. Пракаповіча, А. Каско, А. Ярмоліка, М. Аляшкевіча, А. Буйніцкага, М. Маеўскага, Ю. Сіманава і М. Пакалюка як арганізатараў і ўдзельнікаў «Дзядоў», якія адзначаліся ў Бярэсьці 28 кастрычніка па ініцыятыве рэгіянальнай Рады БНФ, абласных аддзяленьняў творчых саюзаў і грамадзка-культурнай сябрыны «Край». Судзьдзі Сучок, Сімакоў і Карпук вызначылі «злачынцам» меру пакараньня: штрафы ад 30 да 200 рублёў, а некаторым — адміністрацыйнае папярэджаньне.

● **15 лістапада, МЕНСК.** Народны судзьдзя Ленінскага раёна Жаўнерчык, разглядзеўшы «справу» аб прыцягненьні да адміністрацыйнай адказнасьці (падзеі 25, 26, 27 кастрычніка пад час 12-й сесіі Вярхоўнага Савета БССР) Г. Мухіна, з-за недахопу ўлік накіраваў яе на дасьледаваньне. На дасьледваньне накіраваныя таксама «справы» Ю. Хадыкі, М. Купавы, А. Галькевіча і М. Собаля. Цікава, што ўсе вышэй пералічаныя сябры Сойму і Управы БНФ — патэнцыяльныя кандыдаты ў народныя дэпутаты БССР.

● **16 лістапада, МЕНСК.** Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага Сялянскага Саюзу (БСС). У яе рабоце ўдзельнічала каля 200 фермераў і арандатараў. Дэлегаты абралі Управу, якую ўзначаліў кандыдат эканамічных навук К. Ярмоленка. Утварэньне БСС вітаў намесьнік Старшыні Сойму БНФ Ю. Хадыка. Паміж кіраўніцтвам БСС і прадстаўнікамі «Адраджэньня» адбыліся перамовы пра ўзаемную падтрымку на выбарах. Сваёй рабочай мовай фермеры абралі беларускую.

● **20 лістапада, МАЛАДЗЕЧНА.** Супрацоўнік Радашкавіцкага керамічнага заводу Л. Міткевіч (бацька чатырох дзяцей) распачаў галадоўку ля будынка райвыканкама супраць уведзенага ліміту на газ (згодна з апошнімі рэспубліканскімі пастановамі адной сям'і на 45 дзён выдаецца адзін балон газу, незважаючы на колькасьці чалавек у ёй). У другой палове дня, пасьля экстраннага паседжаньня райвыканкам пагадзіўся задаволіць патрабаваньні галадоўшчыка. На наступны дзень ў раённай газэце «Святло камунізму» зьявілася паведамленьне пра тое, што ўсялякія ліміты на газ скасаваныя для ўсіх жыхароў раёна.

**20 лістапада, МЕНСК.** Прадстаўнік праваслаўнага брацтва, сябра БНФ М. Арэшка ўручыў Управе «Адраджэньня» дар уладыкі Філарэта—партыю набытых у Японіі аднаразавых шпрыцоў. Камітэт БНФ «Дзеці Чарнобыля» перадаў шпрыцы галоўнаму ўрачу Хойніцкага раённага шпіталю.

**26 лістапада, ВІЛЬНЯ.** Партыя зялёных Літвы ўшанавала памяць ахвяраў Чарнобыля масавым шэсьцем. Акцыя салідарнасьці была прымеркавана да Асамблеі народаў «Чарнобыльскі шлях», якая адбылася ў Менску. Каля пяці тысячаў чалавек прайшлі ад Вярхоўнага Савету Літвы да пляца Гедыміна. Шэсьце завяршылася канцэртам духоўнай музыкі і месай у Кафедральным касьцёле.

**26 лістапада, МЯДЗЕЛЬСКІ РАЁН.** Адбыўся арганізацыйны сход групаў падтрымкі БНФ Мядзельскага раёна, на якім была ўтвораная раённая Рада «Адраджэньня». У яе складзе запачаткаваныя наступныя камісіі: грамадзкіх і палітычных пытаньняў, культурна-асьветніцкая, экалагічная, інфармацыі. Прыярытэтная задача Рады на бліжэйшы тэрмін — правядзеньне перадвыбарчай кампаніі. Старшынёй Мядзельскай Рады БНФ абраны В. Пачкоўскі (адрас: Мядзель, вул. Усходняя, д. 8, кв. 2, тэл. 55-129).

● **5 сьнежня, МЕНСК.** Працягвала работу 13-я сесія Вярхоўнага Савету БССР. Увечары яе фрагменты былі паказаныя па тэлебачаньні. Выступіў старшыня камісіі заканадаўчых меркаваньняў, работнік апарату ЦК КПБ І. Якушаў, які паведаміў, што на сесію прыйшоў ліст ад ветэранаў вайны і працы зь Лепеля і што ён распаўсюджаны сярод дэпутатаў. Што там падпісалі ветэраны зь Лепеля невядома, але, відаць, нешта супраць БНФ, бо І. Якушў тут жа зачытаў у сувязі з гэтым праект пастановы Вярхоўнага Савету, дзе прэзідэнту АН БССР дэпутату Ул. Платонаву даручана разгледзець у калектыве Акадэміі і даць ацэнку ст. навуковаму супрацоўніку З. Пазьняку і паведаміць Вярхоўнаму Савету да 1 студзеня 1990. Важную дзяржаўную пастанову прынялі. Але калі назаўтра газэты выйшлі з прамовай Якушава, ніякага ўспаміну пра Старшыню БНФ чытачы ў ёй не знайшлі.

**Падрыхтавалі Алесь Гуркоў, Павел Жук, Зьміцер Пушкін.**

СЬВЕТЛАЯ ПАМЯЦЬ.

**Куды ідзём?.. У паніжэньні, у цемнаце**
**Яшчэ адно загасла сэрца...**

## Памёр Андрэй Сахараў

## ІНФАРМАЦЫЯ

З 11 сьнежня на юрыдычным факультэце БДУ арганізаваная юрыдычная **кансультацыя па выбарах**. Група працуе штодзённа (апрача суботы і нядзелі) з 12.00 да 20.00.

Адрас: Менск, вул. Маскоўская, 17, 10-ы паверх, пакой камітэта камсамола. Тэл. 25-36-19.


НАВІНЫ

**Нумар падрыхтаваны рэдакцыйная калегіяй БНФ «Адраджэньне». Рэдактар Алесь Суша.** Адрас для карэспандэнцыі: **220113, Менск-113, абанементная скрыня 327.** Нагадваем, што бяз Вашых ахвяраваньняў выданьне «Навінаў» стане немагчымае. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ.

Высокі друк. Фармат 1 друкаваны аркуш. Наклад 10 000. Заказ № 4. Друкарня Марціна Кухты.